Яды ў лесе



4 стар.

У які дзень парышся?



Дослед нашага чытача

5 стар.

Калона ў гонар Канстыутцыі

6 стар.


ПЛЮС TV

ТЫДНЁВІК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, УШАЧЫ, ШАРКОЎШЧЫНА

# Вольнае Глыбокае

http://vglybokaye.promedia.minsk.by

Выдаецца са снежня 1994 года | № 18(109) 2--8 траўня 2002 года | Кошт па дамове


*Фота IREX /ProMedia*



*5 мая праваслаўныя хрысціяне святкуюць Вялікдзень або Пасху. Ні аднаго свята царква не святкуе так незвычайна светла і ўрачыста, як Пасху. Ісус Хрыстос пацярпеў на крыжы і памёр як чалавек, але ён перамог смерць, уваскрос і адкрыў людзям шлях да вечнага жыцця. Святкуючы Хрыстову Пасху, царква адзначае збаўленне ад рабства – рабства граху.*

*Сардэчна віншуем праваслаўных вернікаў з найвялікшым хрысціянскім святам. Няхай зямное жыццё Ісуса Хрыста будзе для ўсіх нас прыкладам служэння Богу, каб пазбавіўшыся ад грэшных думак і ўчынкаў, мы змаглі годна сустрэць гэта светлае веснавое свята.*

**Хрыстос уваскрос!**
**Сапраўды ўваскрос!**

## Беларуская армія зноў гуляе ў вайну

Сёлета з 27 траўня па 2 чэрвеня пад кіраўніцтвам міністра абароны Беларусі генерал-палкоўніка Леаніда Мальцава пройдзе комплекснае аператыўна-тактычнае вучэнне, якое стане самым буйным вучэбна-баявым мерапрыемствам Узброеных сіл Беларусі ў 2002 годзе. Як паведамілі карэспандэнту ІА "Росбалт" у галоўным штабе сухапутных войскаў Узброеных сіл РФ, стратэгічныя партнёры Расіі будуць правяраць эфектыўнасць сваёй новай групоўкі Паўночна-Заходняга аператыўнага камандавання, створанага ў канцы 2001 года.

У тактычных вучэннях з баявой стральбой будуць прымаць удзел мотастралковыя, артылерыйскія злучэнні, часткі іх забеспячэння. Яны выпрацоўць арганізацыю франтавой абароны з рэальным разгортваннем падраздзяленняў. Мяркуецца прыцягнуць на вучэнні некалькі сотняў ваеннаслужачых запасу. Калі ўлічваць маштаб надыходзячай трэніроўкі, генерал-палкоўнік Мальцаў накіраваў адпаведныя паведамленні кіраўнікам еўрапейскіх дзяржаў, якія мяжуюць з Беларуссю.

*«RR»*

**Надвор`е*** Агляд складзены па дадзеных за 28/04/2002 0:00 GMT

| | 2/5 Чц | 3/5 Пт | 4/5 Сб | 5/5 Нд | 6/5 Пн | 7/5 Ат | 8/5 Ср | 9/5 Чц |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Тэмпература: з 14 гадзін | +21 | +20 | +22 | +19 | +14 | +16 | +12 | +10 |
| з 2 гадзін | +11 | +10 | +12 | +12 | +12 | +11 | +6 | +7 |
| Ціск, мм рт.сл. | 753 | 755 | 754 | 750 | 746 | 744 | 735 | 730 |
| Тэндэнцыя ціску | +4 | +2 | -1 | -4 | -4 | -2 | -9 | +3 |
| Накірунак ветру | Пд | Пд-У | Пд-У | Пд | Пд-З | Пн-З | Пд-З | Пд-З |
| Хуткасць ветру, м/с | 2 | 3 | 3 | 3 | 5 | 4 | 5 | 7 |

© Gismeteo.Ru

Заўвага: прагноз надвор`я ў нашым рэгіёне пададзены ў прывязцы да г. Полацка

7 мая адзначаецца

Дзень работнікаў радыё, тэлебачання і сувязі.

А паколькі дзякуючы работнікам сувязі распаўсюджваецца значная частка накладу нашай газеты, мы віншуем работнікаў пошты і вузлоў электрасувязі з іх прафесійным святам, жадаем поспехаў у працы і асабістым жыцці.

## Выкрадальнік, а можа, і забойца Д.Завадскага ў Глыбокім?

**Рэдакцыя газеты "Вольнае Глыбокае"мяркуе, што 32-гадовы Валерый Ігнатовіч, які быў прыгавораны Мінскім абласным судом да пажыццёвага пазбаўлення волі, магчыма, адбывае заключэнне ў Глыбоцкай калоніі асобага рэжыму УЖ 15/13.**

**Якія падставы так меркаваць? Мы спрабавалі атрымаць тлумачэнне ў некаторых службоўцаў з гэтай калоніі. Але ад адказу на простае пытанне яны ўхіліліся. Між тым Глыбоцкая калонія, лічы, адзіная ўстанова ў рэспубліцы, дзе знаходзяцца пажыццёва асуджаныя.**

Ігнатовіч быў прызнаны вінаватым у «создании банды, в руководстве бандой, в участии в банде и совершённых ею нападениях". Да пажыццёвага зняволення прыгавораны таксама і Максім Малік, які разам з Ігнатовічам быў абвінавачаны і ў "похищении человека по предворительному сговору лиц, организованной группой"( Тут у час судовага працэсу мелася на ўвазе выкраданне Дзмітрыя Завадскага)

Маці Завадскага засталася незадаволенай рашэннем суда і, на яе меркаванне, "справа Завадскага" патанула ў другіх эпізодах. Сам жа Ігнатовіч на судзе назваў усё адбыўшаеся камедыяй."Мы ні ў чым не вінаватыя" — некалькі разоў паўтараў ён.

Усцешвае, што суд не задаволіў патрабаванні дзяржаўнага абвінаваўцы Фёдара Шэдава аб вышэйшай меры пакарання — расстрэле, бо тады б у справе Завадскага куляй была б пастаўлена кропка, а пажыццёвае зняволенне дае магчымасць думаць, што справа будзе яшчэ мець працяг. Шматкроп'е дае магчымасць адчыніць дзверы ў адну з камер пажыццёвых зняволеных у Глыбоцкай калоніі сапраўдным забойцам і заказчыкам забойства Завадскага. Колькі часу нам спатрэбіцца чакаць, мы не ведаем, але ж у тым, што гэта адбудзецца, мы не сумняваемся. А пакуль просім службоўцаў "Установы УЖ15/13" і сукамернікаў берагчы былога супрацоўніка "Алмазу" ад няшчасных выпадкаў, ад самагубства і г. д. Паўторым, калі ён знаходзіцца там.

*Я.Бернікович*



Дзе Завадскі?



# Бясплатныя прыватныя абвесткі

## ПРАДАМ:

➽ 2-пакаёвую кватэру ў г.п. Шаркоўшчына з усімі выгодамі, альбо мяняю на г. Глыбокае. Тэл.: 8(256)22099

➽ Хату ў в.Станулі, ВАЗ-011, гандлёвую палатку 2х2, рухавік-01. Тэл.: 25103

➽ Дом у цэнтры Глыбокага, агарод 0,10 га, гасп. пабудовы, студня. Тэл.: 24317

➽ 3-пакаёвую кватэру з выгодамі ў р-не СПТВ-168, пральную машыну «Малютка» б/у ў добрым стане. Тэл.: 22007

➽ Радыятар ацяплення чыгунны, электралічыльнік 1-фазны, электразварачны апарат, плуг 3-корпусны, культыватар, акучнік, бульбакапалку. Тэл.: 22917

➽ Ірландская печ-камін. Тэл.: 21113

➽ Пральная машына «Волга-2ВМ» (новая ва ўпакоўцы), газавы балон. Тэл.:26589

➽ Рухавік ВАЗ-03, ВАЗ-2103 на запчасткі. Звяртацца: вул. Каліноўскага, 4. Тэл 22392

➽ Секцыю «Іпуць». Тэл.: 28700

➽ Сетку стальную. Тэл: 26564

➽ Піяніна. Звяртацца: вул. Леніна 129б кв., 92. Тэл.: 24585(пасля 17.00, Галя)

➽ Ці абмяняю з даплатай кватэру без выгод у цэнтры горада. Тэл.: 23308

➽ А/М ГАЗ-24 «Волга» на запчасткі. Тэл.: 28056

➽ ВАЗ-2106 1994 г.в.; рухавік, каробку перадач, лабавое шкло да М-2140. Тэл.:39476, в. Мярэцкія

➽ Прычэп для Л/А 2001 г.в., высокі і нізкі тэнт. Тэл.:23434

➽ Гараж у р-не камбікормавага завода.Тэл. 21657

➽ Дом: маецца хлеў, прысядзібны ўчастак, вадаправод. Звяртацца: г.п. Падсвілле. Тэл.: 35326. Магчымы варыянты

➽ «VW-PASSAT»-універсал 1,6Д 1985 г.в. 800 у.е. (торг) Тэл.: 23294

➽ Ці абмяняю з даплатай двухпакаёвую кватэру без выгод. Тэл.: 23399

➽ Новую швейную машынку "Віка" (нядорага). Тэл.: 26942

➽ Мікрааўтобус "Фіат-Дукато", 1990 г.в., 2,5 дызель, 8 пас. месц. Тэл.: 34367

➽ 3-пакаёваю кватэру ў в. Мосар. Праведзены рамонт паравога ацяплення (новы кацёл), ёсць гарачая і халодная вада. Тэл.: 32923 (хатні), 32925 (раб.)

➽ Газавую пліту 4-х камфарную. Тэл.: 27141 (з17 да 18)

➽ Кухню (новую) вытворчасці Польшчы. Тэл.: 28157

➽ Устаноўку для вытворчасці цукровай ваты. Працуе ад сеткі пераменнага напружання 220В. Для награвання выкарыстоўваецца бытавы газавы балон «Прапан». Габарытныя памеры ўстаноўкі: вышыня 60см., шырыня 55см., вага 22кг. Тэл.: 26761

➽ Гараж у р-не ПТВ. Тэл.: 21247

➽ Спадарожнікавую сістэму НТВ-ПЛЮС. Тэл.: 25097, 26590

➽ Каляску дзіцячую-джып універсальную. У выдатным стане. Цана 80 у.а. Тэл.: 28494

➽ Запчасткі да аўтамабіля ГАЗ-69. Тэл.: 24975

➽ Сінтэзатар "Cassio" за $160, акардэон дзіцячы. Тэл.: 29477

➽ Запчасткі да "Мерседэс-200", кузаў-123, да «VW-Гольф», «Джэтта», б/у, нядорага. Тэл.: 21781

➽ Мікрааўтобус МВ-100Д 1993г.в на запчасткі. Тэл. у Глыбокім: 26458

➽ Кацёл (новы) на цвёрдым паліве, электрапліту (б/у) з духоўкай. Тэл.: 2 45 20 (у любы час)

➽ Матацыкл МТ-11 (прабег да 7 тыс.км.), сена, конную павозку, перадок да павозкі. Абрубскі с/с в.Шыпы, Баран Рыгор Мікалаевіч

➽ Набор корпуснай мэблі «Альфа» трохдзвёрную шафу (усё ва ўпакоўцы). Тэл.: 39635 (Ігар)

➽ Тэрмінова 2-пакаёвую кватэру ў раёне МКК. Тэл.: 25282 з 18-00 да 19-00 (спытаць Сяргея)

➽ Сядзібу на знос, гараж на МКК, бляху ацынкаваную. А/м ГАЗ-52, вароты гаражныя, пліты ж/б, спальны гарнітур, машыну швейную (новую). Звяртацца г.Глыбокае, вул. Чырвонаармейская, 18. Тэл.: 28933

➽ Тэрмінова Дом драўляны 8х12 у в. Пятроўшчына, на беразе возера, сад, 1 га. зямлі, агарод, хлеў, лазня, дзве веранды, ёсць тэлефон. Нядорага. Звяртацца: в. Пятроўшчына, вул. Палявая 11 (Скурат). Тэл.: 33959 (у любы час)

➽ А/М «Фольксваген-Пасат» 1986 г.в. (дызель) цана 1000 у.а. А/М «Тайота-Карола» 1986 г.в. (карбюратар 1,3) цана 500 у.а. Тэл.: 21992, 38758.

➽ Стары дом, добры ўчастак для будоўлі дома 0,15 га зямлі вул, Камсамольская, 12. Цана 1600 у.е. Тэл.: 22312

➽ Матаблок МТЗ-0,5 1 цыліндр 8к.с рухавік США. Тэл.: 26790

➽ Павозку на гумовым ходу. Цана па дамове. Звяртацца: Карабоўскі с/с, в. Жураўнёва д. №19

➽ Дом у в. Скражына Празарокскі с/с, газазварачную ўстаноўку, прычэп «Зубраня» б/у, Тэл.: 824558423

➽ Тэрмінова недабудаваны катэдж па вул. Горкага без унутраных работ, гаспадарчыя пабудовы, вадаправод, 20 сотак. Тэл.: 21758

➽ Тэлевізары: «Гарызонт», «Віцязь» новыя. Ігравыя прыстаўкі «Соні» 32 біт, «Сега Дрэмкаст» 128 біт. Тэл.: 24737

➽ Шафу двухдзвёрную з антрэсолямі, камод б/у, стол раскладны б/у, ложак драўляны аднаспальны б/у, пакрывала нейлонавае, сцёганае, двухспальнае. Усё нядорага. Тэл.:28506

➽ ВАЗ-21061, 1994г.в. 1,5л. Прабег 86 тыс.км., антыкаразійнае пакрыццё, зімняя рэзіна і інш. Цана 1450 у.а. Торг. Тэл.: 39476 (пасля 20.00)

➽ Зямельны ўчастак з падмуркам па вул. З.Бядулі. Звяртацца: Глыбокае, вул., Садовая 36/65. Тэл.: 26746

➽ ГАЗ - 52, бляху ацынкаваную, ж/б пліты, плітку абліцовачную, гарнітур спальны, вароты гаражныя, машынку швейную, габэлік электрычны. Тэл.: 24017, 28933

➽ Тэрмінова! Прадам швейную машыну "Подольскую" (ножную), у добрым стане, складаецца тумбачкай. Тэл: 21814

➽ Ножную швейную машыну "Зінгер". Звяртацца: г. Глыбокае, вул. Шпітальная, 17

➽ Аўтамабіль «Ніва», рухавік «ЗІЛ» -- новы, ацяпляльны кацёл на цвёрдым паліве -- новы, ацэціленавы генератар -- новы, паліўны насос (да трактара МТЗ), пліту. Тэл у Глыбокім: 22660

➽ 2-х пакаёвую кватэру ў раёне МКК 8,5 тыс. у.а.(магчымы торг) і гараж у раёне Беразвечча. Тэл. 24699

➽ 3- пакаёвую кватэру, гараж, хлеў у раёне МКК. Тэл.: 24941

➽ 3-пакаёвую кватэру па вул. Садовай,34, або абмяняю на жыллё ў раёне СШ№3. Тэл.: 26566

➽ Дом. Ёсць тэлефон, вадаправод, каналізацыя, вадзяное ацяпленне, гараж, рублены хлеў, зашклёная цяпліца. Звяртацца г.Глыбокае, вул. Каралёва, 15. Кошт 7500 у.а. Тэл.: 23386

➽ А/М «Масквіч-2140» на запчасткі. Звяртацца: Глыбокае, Гастэла, 16. Тэл.: 25249

➽ Матацыкл "ИЖ-Планета-2" на запчасткі; кампрэсар, бур, акумулятар. Тэл.: 23068

➽ Прадаецца дом, вул. 3 ліпеня,21. Тэл.:26674

➽ Познюю насенную бульбу. Звяртацца в. Прыпернае (Бартко). Тэл.: 36744 (працоўны з 11 да 16)

➽ А/М «Фольксваген-Пасат». 1982г.в. Тэл.: 37678

➽ Каляску дзіцячую б/у вытворчасці Польшча ў добрым стане. Звяртацца Шунеўцы 2-5. Тэл.: 34480

➽ Новыя тэнзаметрычныя вагі ВТН-15. Тэл.: 28070

➽ Прадам ці абмяняю з даплатай двухпакаёвую кватэру без выгод. Тэл.: 23399

➽ Дом (нядорага) невялікі з прысядзібным участкам. Звяртацца: Наваполацк вул. Я.Коласа, 38 кв 101. Тэл.: 82453461

➽ Двухмесячных казлянят. Тэл.: 26962

➽ Халадзільнік «Крыстал» (новы) ва ўпакоўцы, пліту газавую 4-х камфарную б/у, дзверы б/у. Тэл.: 23434

➽ Кацёл на цвёрдым паліве новы, скараварку новую, кухонны буфет, вугаль, ёмістасць для вадкага паліва на 1800 літраў (нерж). Тэл.: 24520

➽ Дом 1981 года пабудовы драўляны, абкладзены цэглай 65м², веранда 25м², двайное ацяпленне, вадаправод, вялікі блочны хлеў. Кошт 600 у.е. Шумілінскі р-н, в. Сураўш. Тэл.: 26225 (Глыбокае)

➽ Дом, два хлявы, лазню ў в. Баяры Падсвільскага п/с. Звяртацца: г.Глыбокае, вул Драздовіча, дом 5 кв. 2. Тэл.: 28568

➽ А/М «Рэно»-21 1992 г.в. 1,7 (бензін). Цана 2300 у.а. Звяртацца в. Удзела, вул. Маладзёжная 39а

➽ Дом у г. Глубокае, вул. Камарова 11. Звяртацца г.Глыбокае, вул. Леніна, тэл.: 24899

➽ Мяккі вугалок і невялікі дом (танна).Тэл.: 27201

➽ Карова 2-х цялят. Кошт па дамове. Звяртацца: Глыбоцкі р-н в. Латыголь. Паўловіч Юра

➽ Кацёл у пліту. Тэл.: 21326

➽ Хату ў в.Шыпы 5,40х9,70 будоўля 1983г. Тэл.: 21916

➽ Ракавіну фарфоравую для ваннай; Аверлок -51 клас, вязальную машыну "Нява - 5", секцыю літоўскую (усе б/у). Тэл.: 23170

➽ Скураную куртку жаночую (б/у) 30 у.а. Баціні з натуральнай скуры мужчынскія п. 41 (но-выя) 25 у.а., лячэбны пух сабакі Н`юфаўндленд. Тэл.: 21814.

➽ Коўдру паўшарсцяную. Склад сыравіны: шэрсць 55%, ПАН 28%, ПЭ 17%. Размер 150х205 см. Цана 25000 руб. Звяртацца: Глыбокае, вул., Міра 3 кв. 9. Тэл.: 21744

## ПРАПАНУЮ:

➽ Брыгада будаўнікоў выканае любыя будаўніча-рамонтныя работы. Дызайн, перапланіроўка дамоў, кватэр, якасць гарантуецца. Тэл. у Глыбокім: 21951 пасля $20^{00}$

➽ Мастацкая коўка: Рашоткі, вароты, поручні, агароджы, казыркі, ліхтары, вінтавыя лесвіцы, кованая мэбля, камінныя прылады, люстры, бра, падсвечнікі, таршэры, завесы, ручкі, флюгеры. Звяртацца: г.Паставы, вул Дубоўкі,35, Фурс Ю.А Тэл.: 25524432 Ліцэнзія №3570 ад 1.11.1996г.

➽ Намалюю карціну пад заказ, партрэт з фотаздымка, росціс дзвярэй, сцен пад дрэва, мармур. Тэл.: 25107 (Віктар)

➽ Рамантую пішучую тэхніку. Звяртацца: г.Глыбокае, вул Мінская 12а. Тэл.: 26002

➽ Рамонт і наладка музычных інструментаў за наяўны і безнаяўны разлік. Тэл. 8(245)-51986 (Наваполацк)

➽ Кантрольныя, курсавыя, дыпломныя работы па гісторыі Беларусі, сусветнай гісторыі. Тэл.: 21274

## КУПЛЮ:

➽ Тэрмінова аднапакаёвую кватэру ў раёне Беразвечча, ці МКК. Тэл.:25277

➽ Задзвіжкі, вентылі, клапаны, адводы, флянцы, прыборы КІП і А.Тэл.: 8 (029) 6868641

➽ Дом у Глыбокім, дзіцячую каляску ў добрым стане. Тэл.: 27186

➽ Чэкі «Маёмасць». Тэл.: 25186

➽ Цэглу белую, сетку металічную. Тэл.: 24941

➽ Дом у Глыбокім.Тэл.: 21617

➽ Трактар МТЗ-80, 82 з навясным абсталяваннем. Тэл.: 27143, 27189

➽ Раслінны грунт і бутавы камень для дэкаратыўнага плота. Тэл.: 28070

➽ Бетонамяшалку. Тэл.: 21909

➽ 1-пакаёвую і 2-пакаёвую кватэры ў Глыбокім. Тэл.: 24313

➽ А/М «ЗАЗ» 965 мадэлі. Тэл.: 25147 (да 22.00)

➽ Шыну ГАЗ-53 Б/У нядорага. Тэл.: 38766 (вечарам)

➽ Два мапедныя колы, Б/У, нядорага. Тэл.: 23674

➽ Антыкварыят, рэчы даўніны, гістарычныя дакументы, карты (да 1939г.). Тэл.: 21274

➽ Тэрмінова 1-пакаёвую кватэру. Звяртацца: Глыбокае. Тэл.: 28075 (з 8.00 да 16.00)

➽ Бетонамяшалку, можна няспраўную. Звяртацца: Гагарына, 40. Тэл.: 21909

➽ Дзіцячыя ролікі. Тэл.: 34469 (пасля 20.00)

➽ Кватэру ў Глыбокім. Тэл.: 21758

➽ Прыцапное «Аудзі-100». Тэл.: 23609

➽ Аднапакаёвую кватэру, альбо паўдома (як танней). Звяртацца ў Паставы. Тэл.: 25735, 25734

➽ ВАЗ-2121 «Ніва» і мадыфікацыі, не растаможаны, біты, без дакументаў на з/ч. Прапаноўваць любыя варыянты. Масквіч- 401 у любым стане Тэл. у Новаполацку: 824556530 (раніца, вечар)

➽ 2-х- або 3-пакаёвую кватэру з выгодамі ў Глыбокім. Тэл.: 33919 пасля 18.00

➽ Металічную сетку «Рабіца», цэглу чырвоную будаўнічую, блокі, вагонку, дошку неабразную. Тэл.: 39635

➽ 2-х ці 3-пакаёвую кватэру ў Глыбокім, ці дом. Тэл.: 26079

➽ Трактар МТЗ-80,82. Прапаноўваць любыя варыянты. Паставы. Тэл.: 37792

➽ А/М «VW-PASSAT» універсал не старэй 1986 г.в. Тэл. у г. Полацк: 8-02144918-34, 8-0296544459

## ЗДЫМУ:

➽ Кватэру, дом у горадзе, прыгарадзе на доўгі тэрмін. Тэл.: 29368

➽ Маладая сям`я здыме дом ці кватэру. Тэл.: 26564

➽ 1-2-х пакаёвую кватэру, альбо дом. Тэл.: 24164 (з 15 да 19)

## ЗДАМ

➽ На пракат вясельную сукенку, памер 44. Тэл.:29346, 21786

## ПАТРАБУЕЦЦА

➽ Няня дзіцяці 1 год 8 месяцаў. Тэл.: 29081

➽ Работнікі (пенсійны, перадпенсійны ўзрост) для рэкламы помнікаў на рынках гарадоў: Браслаў, Докшыцы, Мёры, Паставы, Бягомль, Шаркоўшчына. Тэл. у Маладзечна: (01773)31294

## МЯНЯЮ:

➽ Дом, сад, агарод, хлеў, лазня, каналізацыя, тэлефон, селеп абмяняю на кватэру. Звяртацца: Глыбокае, вул. Пушкіна, 5. Тэл.: 21326

➽ Дом на 3-х пакаёвую кватэру ў раёнах СПТВ, СШ №1, СШ №3. У доме маюцца гараж, лазня, вада, 2 скляпы, хлеў, прысядзібны ўчастак 10 сотак (вішні, слівы, грушы, яблыкі, парэчкі). Звяртацца, вул. К.Шакаладавай, 13. Тэл.: 26823 (у любы час)

➽ Вялікі цагляны дом на беразе Заходняй Дзвіны ў экалагічна чыстым р-не г.Полацка на 2-3-х пакаёвую кватэру ў г.Глубокае. Маецца санвузел, склеп, паравое ацяпленне, вадаправод, а таксама гаспабудовы (2 хлявы), вялікі сад, ягаднікі, 15 сотак участак. Тэл.:21642 (вечарам Валера, Юля)

➽ Дом (дрэва; вадаправод; гаспабудовы) на аднапакаёвую кватэру. Тэл.: 26106

➽ Дом і 1-пакаёвую кватэру на дом у Глыбокім. Тэл.: 21925

## ЗГУБА

➽ Згубілася чорна-белае кацяня ў р-не пошты. Просьба паведаміць за ўзнагароду. Тэл.: 36717

➽ Згубіўся бультэр`ер, кабель тыгровай масці, невялікі. Знайшоўшага просьба паведаміць: вул. М.Казея, 5. Тэл.: 28815

➽ Згублена вадзіцельскае пасведчанне, тэхпашпарт і ваенны білет на імя Андрановіча В.К. Просьба вярнуць за ўзнагароду. Тэл.: 34365

## ШУКАЮ ПРАЦУ

➽ Прадаўца на рынку (ёсць санкніжка і пасведчанне прадпрымальніка). Тэл.: 24221

➽ 17-гадовы юнак шукае працу ў Глыбокім. Прапаноўваць любыя варынты. Тэл.: 38941 з $18^{00}$ да $19^{00}$. Паклікаць Васіля Барана

*Для змяшчэння бясплатнай прыватнай абвесткі запоўніце купон, выражце і дашліце на адрас: вул Шпітальная, 44, 211800, г. Глыбокае, альбо аддайце нашаму распаўсюджвальніку на рынку.*

**Вольнае Глыбокае**

Купон бясплатных абвестак

АДРАС/ ТЭЛ

# Рэгіён

Фота В.Саланінкі



*Добры дзень!*

Здзіўляюся калі чытаю большасць беларускіх выданняў: людзі пішуць туды ці з мэтай прысаромець чалавека (каб ён нікому потым не змог глянуць у вочы), ці з мэтай праславіць яго (некаторыя пасля такіх артыкулаў ходзяць задраўшы галаву ўверх, ды так, што яна становіцца паралельна зямлі). На мой погляд, газеты і часопісы прыстасаваны не для злоснай ганьбы.... У іх можна толькі крышку прысаромець, што я і збіраюся зараз зрабіць.

Тэму для сваёй "ганьбачкі" я выбрала надзённую для нашага Глыбокага тэму: азеляненне. Чэсна скажу: брыдка ісці па горадзе, асабліва каля парка Перамогі, і глядзець на палкі,якія тырчаць з зямлі. Што гэта? Я не ведаю. Але памятаю, што некалькі месяцаў назад тут былі дрэвы.... Такой "прыгажосці" больш ні ў адным горадзе няма. Экзотыка! Ну і што з таго, што не вельмі прыгожа? Затое незвычайна! Страус таксама не вельмі прыгожы, але на яго ўсе заўзята хочуць паглядзець. Так і ў нас. Заўсёды хочацца падысці да азеляніцеля горада і спытаць: "Вы калі-небудзь вырошчвалі ў сваім двары з бервяна (палена) дрэва? Чаму ж вы хочаце зрабіць гэта ў цэнтры горада? "Цікава, які будзе адказ.

***З павагай, Пранько Ірына***

**Каментарый "ВГ":** у сваіх зыходных дадзеных (стар. 8) мы заўсёды падкрэсліваем, што "аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў". Між тым, у парадку абмеркавання мы можам надрукаваць любы праблемны матэрыял, які цікавіць жыхароў Глыбоччыны і ўсяго паўночна-заходняга абшару Беларусі, нават, калі калектыў, які рыхтуе "ВГ", з ім не згодны.

Што датычыць думкі, якую выказала наша чытачка Пранько Ірына, то мы схіляемся да таго меркавання, што, калі камунальныя службы Глыбокага, пры выкананні работ, цалкам захавалі тэхналогію, то нічога сташнага не адбылося. Наадварот, праз год-другі, мы ўбачым новую прыгожую прысаду на вуліцы Леніна і іншых вуліцах Глыбокага. Зрэшты, не толькі Глыбокага, але і Плешчаніц, Шаркоўшчыны, дзе назіраюцца падобныя работы па рэгенерацыі зялёных насаджэнняў. Наш досвед, а сярод журналістаў "ВГ" ёсць і былыя майстры, прарабы і геадэзісты, дазваляе нам сказаць, што такі прынцып рэгенерацыі выкарыстоўваецца і ў Еўропе, Прыбалтыйскіх краінах. Калі гэта зроблена паводле тэхналогіі, то вынік можна чакаць толькі станоўчы. Звычайна падрэзку дрэў робяць на прысадах (алеях), але не чапаюць у парках. Гэта, якраз, і зроблена ў Глыбокім.

Што ж, ці мае рацыю Пранько Ірына, засталося чакаць і не так доўга. Першыя вынікі мы ўбычым улетку, недзе ў жніўні. Тады і можна будзе запытаць: ці не дарма есць хлеб "азеляніцель горада". Сёння ён здае свой іспыт на сталасць і кампетэнтнасць.

## Колькі можна трываць?

**Самая папулярная тэма размоў у паджылых людзей ва ўсіх кутках Глыбоцкага раёна і ў суседзяў, хто і калі з іх знаёмых аднагодкаў ужо атрымаў пенсію.**

У сакавіку затрымкі выплат тут сталі найбольш працяглымі (ад некалькіх дзён да двух тыдняў). Цяжка змірыцца пенсіянерам, якіх у раёне больш 15 тысяч, што цяпер сваіх грошай, якія яны зарабілі на старасць, прыйдзецца чакаць доўга. Палажэнне з выплатамі пагаршаецца. Калі на 1 лістапада запазычанасць па аплаце ўзносаў у фонд сацыяльнай абароны перавысіла 766,1 мільёна рублёў, то праз чатыры месяцы недахоп перавысіў 1 мільярд 67,5 мільёна рублёў. Амаль столькі ж сродкаў было накіравана на выплату сакавіцкіх пенсій.

Супрацоўнікі аддзела сацыяльнай абароны стаміліся тлумачыць усім, хто скардзіцца, што збор плацяжоў на выплаты пенсій катастрафічна зніжаецца. Ужо не засталося ніякіх рэзерваў, а выплаты праводзяцца адразу, у дзень іх пералічэння. Раней 70% усіх даўгоў прыходзілася на структуры АПК, доўг некаторых калгасаў перавысіў 60-70 млн рублёў. Цяпер нямала праблем у прамысловасці раёна, бо знізіліся аб'ёмы вытворчасці ў студзені-лютым на 8,6% да ўзроўню 2001 года. Наўрад у эканоміцы раёна палепшацца справы вясной і летам. І таму ўсім варта падрыхтавацца да зацягвання паясоў і затрымак заробкаў і пенсій.

## Тры гады за два выстралы

**Шмат чутак у Шаркоўшчыне нарадзілі два выбухі з цемры па вокнах будынка аддзялення Белаграпрамбанка мінулай восенню.**

Пры расследванні крымінальнай справы спачатку ў міліцыі нават не сталі разглядаць дачыненне да гэтага інцыдэнта мясцовага інкасатара, да таго ж вопытнага паляўнічага. Але хутка Валерый К. сам прызнаўся ў тым, што здарылася і здаў сваё дарагое аўтаматычнае самазараднае паляўнічае ружжо. У той выхадны дзень паляўнічы з 10-гадовым стажам дапамог бацьку справіцца з заколатым кабанчыкам, крыху выпіў і ўжо па дарозе дадому двойчы выпаліў па будынку банка з адлегласці 60 метраў, у якім сам і працуе. Нягледзячы на шчырае прызнанне, пакрыццё шкоды банку, суд нядаўна пакараў гора-стралка пазбаўленнем волі на 3 гады. Наступствы злоснага хуліганства з выкарыстаннем зброі маглі быць трагічнымі, каб на шляху куль аказаўся чалавек.

## Масцярыца на ўсе рукі

Быццам памаладзела праваслаўная царква ў вёсцы Узмены Мёрскага раёна пасля таго, як у храме аднавілі царскія вароты і з'явілася шэсць ікон, якія напісаны мясцовай мастачкай Валянцінай Рудовіч. З дзяцінства яна цудоўна малявала і пасля заканчэння мастацкага вучылішча працавала ў творчай групе завода керамікі ў Івянцы. Ужо 12 год Валянціна працуе ў сярэдняй школе, дзе вядзе факультатыў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. У яе групе 30 вучняў, якія займаюцца керамікай і робяць з гліны сотні розных вырабаў і цацак. Затое своеасаблівым мастацкім салонам стала сама пабудова школы і вучэбныя класы. Прычым, ва ўмелых руках масцярыцы ажываюць карціны з незвычайных падручных матэрыялаў: шкла, нітак, скур і нават насення. Работы вясковай мастачкі прадстаўлены ў шэрагу музеяў Беларусі і ў прыватных калекцыях за мяжой. У свой час яны былі выстаўлены на ВДНГ былога Саюза.

## З рэформамі замінка

**Яшчэ да 1 сакавіка 78 самых адсталых гаспадарак вобласці павінны былі першымі прайсці праз рэфармаванне.**

На справе толькі менш дзесяці бедных калгасаў спынілі сваё існаванне і далучыліся да больш моцных калектываў. Такую ж працэдуру ў Глыбоцкім раёне планіравалася правесці ў калгасе імя Калініна: аб'яднаць яго з суседам – калгасам "Новы шлях". Яго становішча лепшае, бо ў калгасе працуе свой малочны завод. Аднак вяскоўцы пажадалі гаспадарыць самі і абралі сабе новага старшыню – Міхаіла Данілевіча, які раней быў намеснікам.

Усяго ж на Глыбоччыне памяняліся кіраўнікоў у чатырох калгасах, бо два старшыні пайшлі на пенсію, а Эдуард Цынкевіч з калгаса "Кастрычнік" узначаліў Глыбоцкую птушкафабрыку. Яшчэ больш кадравых перамен – адразу шэсць – у суседнім Пастаўскім раёне. Напярэдадні пасяўной памяняліся старшыні ў калгасах "XXV партз'езд" і "Чырвоны сцяг", дзе пасля працяглых угавораў згадзілася прыняць гаспадарку былы галоўны аграном Марыя Пабяржына.

## Фестываль узяў перапынак

Недахоп грашовых сродкаў стаў прычынай адмены ў гэтым годзе ў Паставах традыцыйнага міжнароднага фестывалю народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік". Да гэтага дзесяць гадоў запар збіраліся ў чэрвені на пастаўскай зямлі самабытныя аркестры і ансамблі, індывідуальныя выканаўцы на народных інструментах. Між іншым, з кожным годам прыняць на 4 дні, размясціць і накарміць больш чым паўтары тасячы гасцей становіцца больш складана. Некалькі разоў лёс фестывалю вісеў на валаску, але не зрываўся, дзякуючы намаганням мясцовых уладаў. Цяпер па рашэнню Міністэрства культуры Беларусі гэта свята музыкі будзе праводзіцца раз у два гады, а цымбалы з гармошкай пачнуць спяваць зноў у 2003 годзе. Праўда, пазбаўляць публіку фестывалю поўнасцю не сталі і замест яго 1-2 чэрвеня ў горадзе пройдзе міжраённае свята народнай творчасці "Пастаўскія перазвоны"

*У.Шык*

## Сабака бывае кусачай

**Сапраўдным бедствам для жыхароў Мёр стала вялізная сабака, якая належыць адной з жыхарак Ізварына. Часта сабака зрываецца з прывязу і кусае гараджан.**

За год ад яго пакусаў пацярпелі тры, а за апошнія тры гады – 10 чалавек. Усыпіць злую сабаку не ўдаецца, бо ў яго густая поўсць і ён хаваецца ў крытычныя хвіліны.

Між тым, ад агрэсіўных братоў нашых меншых церпяць усё больш людзей. У 2001 годзе за антыарабічнай дапамогай звярнулася 66 жыхароў раёна, у тым ліку 18 дзяцей. Прычым, толькі 7 сабак былі бадзяжнымі, а астатнія мелі гаспадароў. Як ні дзіўна, больш за ўсё – 39 пацярпелых – гаражане. Тады як на сяле пацярпела ад сабак 27 жыхароў. У 19 выпадках, каб пазбегнуць больш сур'ёзных наступстваў, людзям прыйшлося прайсці курс прышчэпак супраць шаленства.

## Мост – артэрыя жыцця

Больш за паўстагоддзя прыйшлося чакаць жыхарам Мёрскага і Верхнядзвінскага раёнаў, пакуль у другой палове дня 29 сакавіка не адкрыўся мост праз Заходнюю Дзвіну. Складанейшае збудаванне ў кароткі тэрмін змантыравалі спецыялісты аддзельнай маставой роты чыгуначных войск, якія першымі і праехаліся па ім на сваіх машынах. На месцы знішчанага ў вайну маста працягласцю ў 220 метраў у межах горада Верхнядзвінска доўгі час дзейнічала сезонная паромная пераправа, і, каб перабрацца на другі бераг ракі, аўтамабілістам прыходзілася чакаць у чарзе па гадзіне і болей. Калі паром не працаваў, жыхары перабіраліся на другі бераг з дапамогай лодачнікаў-перавозчыкаў або па лёдзе, а машыны ездзілі ў аб'езд праз Полацк – Наваполацк. Дарэчы, у трэці раз за апошнія два гады армія прыходзіць на дапамогу насельніцтву, збудаваўшы пешаходны мост у Наваполацку, які потым перабазіравалі ў Верхнядзвінск. Яшчэ раней пантонны мост для транспарту з'явіўся з дапамогай ваенных у Пастаўскім раёне праз раку Дзісна.

*Уладзімір Шык*

## Выпальванне да дабра не даводзіць

**Пасля нядзельных пакут ад апёкаў у глыбоцкай бальніцы памёрла 72-гадовая жанчына.**

Жыхарка вёскі Свілка Глыбоцкага раёна стала трэцяй па ліку ахвярай веснавых выпальванняў. Напярэдадні трагедыі, у ноч з 15 на 16 красавіка, жыхарка вёскі прыбрала двор і падпаліла сухое смецце разам з травой. Яе муж убачыў, як яна павалілася і на ёй загарэлася вопратка, і змог патушыць полымя. Мужчына выклікаў "хуткую", але ўрачы аказаліся бяссільнымі.

Штогод усіх папярэджваюць аб наступствах выпальванняў для навакольнага асяроддзя, але полымя гуляе па палях. Толькі на Глыбоччыне ў мінулым годзе было адзначана 11 выпадкаў буйных падпалаў, двойчы гарэў лес у вопытным лясгасе. У гэтым годзе агонь прынёс трагедыю людзям і знішчыў больш 40 пабудоў.

***Уладзімір Шык***

# Маладыя інспектары дарожнага руху

**На мінулым тыдні ў Глыбокім прайшлі зональныя спаборніцтвы "Юныя інспектары дарожнага руху".**

Горад запаланілі маладзёны ў міліцэйскай форме, здзівіўшы як аўтамабілістаў, так і пешаходаў. У конкурсе прымалі ўдзел хлопцы і дзяўчаты як з Глыбокага, так і з Браслава, Шаркоўшчыны, Мёраў, Пастаў, Наваполацка, Полацка і Верхнядзвінска. Наш горад прадстаўляла першая школа, якая бездакорна перамагла на раённым турніры. Не падкачала каманда і ў гэты раз. Глыбачане саступілі толькі Наваполацку і зараз разам з пераможцамі прымуць удзел у абласным конкурсе. Вось імёны нашых малых інспектароў-пераможцаў: Шышко Юлій, Анашкевіч Віталь, Ліманоўскі Аляксей, Валынец Алёна, Ждановіч Святлана, Цяліца Павал, Будзько Вераніка, Свечнікаў Кірыл, Фядзьковіч Тацццяна.

Конкурс быў нялёгкі. Спачатку правяралі ўменне кіраваць роварам, медыка-санітарную падрыхтоўку, потым веданне правілаў дарожнага руху, акрамя таго было патрэбна намаляваць плакаты і бліснуць у конкурсе мастацкай самадзейнасці.

Падобныя акцыі патрабуюць немалых арганізацыйных высілак і матэрыяльных затратаў. Як кажа трэнер каманды і адзін з арганізатараў мерапрыемства Абрамчык Іван Іванавіч: "Без дапамогі многіх людзей правесці штосьці падобнае наўрадці ўдалося б. Хацелася б выказаць падзяку ЖКХ і асабіста яго дырэктару Жыню Алегу Уладзіміравічу за прадастаўленыя грошы на прызы, за дапамогу падрастаючаму пакаленню. Дзякуючы яму былі накормленыя дзеці. Таксама хочацца падзякаваць Тарасевіча Рамана Іосіфавіча, Музыкант Наталлю Ермалаеўну, Раманчук Лідзію Анатольеўну, Калантай Тамару Данілаўну і ўсіх-усіх без чыёй дапамогі гэты конкурс быў бы немагчымы."

*А.Храпавіцкі*




Эканамічны крызіс, які ўжо адбываецца ў нашай краіне дзесяты год запар, вымусіў эканоміць энергарэсурсы. Як вынік – менш стала трапляць нафтапрадуктаў у нашы азёры і рэкі. Вада стала чысцейшай. Гэта адзначаюць не толькі рыбакі, якія раней скардзіліся, што рыба смярдзіць "карасінай", але і любы прахожы, які прагульваецца па ўзбярэжжы азёр Кагальнае і Беразвецкае ў Глыбокім. Але найперш гэта ацанілі вадаплаваючыя птушкі. Акрамя чаек, якія, праўда, і раней не грэбавалі бруднай вадой, цяпер можна тут убачыць і качак, і ныркоў, і ўжо які год запар прылятае з выраю лебядзіная сям`я. ***Фота Ул. Скрабатуна***

# Ашчаднасць на мяжы сквапнасці

**Для беларускага журналіста стала агульным пісаць пра беднасць нашай сённяшняй вёскі. Але так то яно так… Вось толькі нельга не заўважаць і іншых рыс характару, якія прысутнічаюць у селяніне. І яны не такія ўжо рэдкія.**

Дзядзьку за семдзесят, яму зрабілі ў раённай бальніцы складаную аперацыю. У народзе пра гэта гавораць так: выразалі грыжу. Праляжаў дзядзька два дні, а на трэці запрасіўся дадому. Ды так катэгарычна, што ўвечары яго мусілі адпусціць, ды і рады – месца вызвалілася.

А дзядзьку да вёскі дабірацца кіламетраў пяць. На бальнічны транспарт, зразумела, сёння разлічваць не даводзіцца. Выправіўся пешшу. І дайшоў. Пастукаўся ўначы ў хату ўвесь збялелы, але дайшоў. Што ж за пільніца такая ў чалавека? Кароўка на расцёле. Малака дае шмат, толькі вось целіцца заўсёды вельмі цяжка.

Дні са два пабыў дзядзька ў хаце, дакладней у хляве ля каровы. Тая расцялілася, ды з ног звалілася. Дзядзька на ровар і ў райцэнтар зноў. І гэта з нязнятымі швамі. Ветэрынар патрэбен – карову падымаць. Адратавалі карову. І дзядзька нічога, памучыўся,праўда. Ветэрынару заплаціў, а на машыне, якую б мог наняць і тады, калі ездзіў па ветэрынара, і тады, калі яшчэ вяртаўся з райцэнтра –эканомія.

А жыве між тым дзядзька не так і бедна. Удвух з жонкай. Пенсіі для вёскі прыстойныя. Ёсць жывёла, ёсць ладны кавалак зямлі. Тут бы і пра ўласнае здароўе падумаць. Канечне, нейкія там дзесяць тысяч не бываюць лішнімі. Ды толькі не ў гэтым выпадку. Проста спрацаваў адвечны падыход да жыцця, калі жывёла шкадуецца больш, чым чалавек.

Асуджаць гэтага дзядзьку немагчыма. Але ж і не разумець нельга – гэта старая псіхалогія, замацаваная, мусіць, стагоддзямі завядзёнка. Чалавек сам не шукае сабе аблягчэння ў жыцці. А хто ж тады будзе яго шукаць для такіх дзядзькоў? Пра тое, каб яны нешта для сябе яшчэ і патрабавалі, дабіваліся – у беларускай вёсцы і размова яшчэ не ідзе. Як, практычна, і ва ўсім нашым грамадстве.

*Алесь Касцень*

# Будслаўскі касцёл – у Інтэрнэт

У беларускай Сетцы з'явіўся сайт, прысвечаны Нацыянальнаму Санктуарыю Маці Божай у Будславе. На дадзены момант для наведвальнікаў ён даступны на беларускай і рускай мовах, але ў распрацоўцы знаходзяцца польска- і англамоўны варыянты. На сайце прадстаўлена поўная інфармацыя пра гісторыю мясцовага касцёла, старажытны алтар і роспісы, абраз Маці Божай Будслаўскай.

Гэты абраз асабліва шануецца каталікамі Беларусі, а Маці Божая Будслаўская лічыцца апякункай нашай краіны. Па хранікальных звестках, цудоўнае з'яўленне Маці Божай айцам-бернардынам адбылося ў Будславе яшчэ ў 1588 г. Хіба з таго часу і распачалася першыя пілігрымкі. Мясцовыя старажылы апавядаюць, што «і за царом, і за Польшчаю, і за саветамі» 1 і 2 ліпеня ішлі да Маці Божай пілігрымы з усіх куткоў Беларусі і з-за яе межаў (з Варшавы і з Вільні). У 1992 г. упершыню ў гісторыі сучаснай Беларусі пілігрымка была афіцыйна дазволеная. Цяпер кожны год тысячы вернікаў, нярэдка пешшу за сотні кіламетраў, прыходзяць у Будслаў да Маці Божай Будслаўскай.

Адрас сайта ў Інтэрнэце: **www.site.catholik.by/budslau**.

*Антон Пратасоўскі*

**Фотафакт**



**На здымку:** г. Глыбокае, вул. Школьная, 25 красавіка 2002 г., $14^{20}$ гадзін. Шмат зявак сабралося паглядзець на пажар гаспадарчай пабудовы і працэс яго тушэння пажарнай камандай. *Фота Ул. Скрабатуна*

# Ядзы ў лесе

**З нядаўняй пары асабліва прываблівае аматараў актыўнага адпачынку на прыродзе буйны лясны масіў побач з райцэнтрам сярод жывапісных берагоў ракі Мядзелкі. Але гэтым летам эколагі раюць гараджанам устрымацца ад збору ягад і грыбоў у раёне Манькавіцкай лясной дачы.**

Толькі нядаўна пасля з'яўлення ў рэспубліканскай газеце "Советская Белоруссия" артыкула "Пах бяды" жыхары раёна, уключаючы аўтара гэтых радкоў, даведаліся, што ў 1971 годзе ў 22-ім квартале Груздаўскага лясніцтва з'явілася першая ў вобласці (а ўсяго іх тры) сховішча-магільнік ядахімікатаў. Па левым баку дарогі Паставы-Мядзель насупраць павароту на вёску Дзеравянкі ўсяго ў 1120 метрах ад вёскі пахавалі ў лесе амаль 100 тон розных пестыцыдаў. У той час ведалі аб гэтай задуме не многія, а імёны ініцыятараў рызыкаванага мерапрыемства пакрыты цемрай гісторыі.

Напэўна, не самай разумнай галаве прыйшла думка размясціць пляцоўку прамавугольнай формы памерам 20 на 35 метраў усяго ў 900 метрах ад ракі і крыху больш ад возера Доўжа. Можа і таму дакументацыя па падбору ўчастка, праектныя дакументы па будаўніцтву і спісак ядаў аказаліся згубленымі. Толькі ў 1990 годзе райсельгасхімія, якая праводзіла тут работу, склала пашпарт аб'екта. Ён прадстаўляе сабою жалезабетонную траншэю, сцены і дно якой пакрыты гідраізаляцыяй з цэменту. Зверху збудаванне пакрыта слоем зямлі таўшчынёй 1 метр, на якім выраслі маладыя дрэўцы.

З двух бакоў магільніка ўстаноўлены два сматравых калодзежы. Аднак з-за малой глыбіні немагчыма адсачыць працэсы, якія адбываюцца ў грунтовых водах, між тым, даследванні вучоных ЦНДІ комплекснага выкарыстання прыродных рэсурсаў паказалі, што ўжо мелі месца нязначныя выкіды шкодных рэчываў. Цяпер гэта страшнае месца адгарадзілі, а на абсталяванне магільніка ў мінулым годзе выдзелілі 300 тысяч рублёў. У гэтым годзе раённы фонд аховы прыроды маркуе патраціць ужо 3 мільёны для бурэння назіральных свідравін.

За 30 год эксплуатацыі знешне сховішча ядахімікатаў не змянілася. Але хто рызыкне дапусціць, што пад зямлёй усё спакойна, а ў гэтым скопішчы небяспечных ядаў не ўтварылася шчылінка сярод жалезабетонных пліт. Добра яшчэ, што пробы грунта і вады будуць браць раз у квартал. Хаця б па частцы ствараць сабе цяжкасці (бо аб'ект размешчаны непадалёк ад горада) нам мала знойдзецца роўных.

-- Акрамя гэтага ляснога пахавання ядаў, -- кажа начальнік райінспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Уладзімір Магільніцкі, -- прыкладаў бяздумнай гаспадарчай дзейнасці і варварскіх адносін да багацццяў лесу вельмі шмат. Многія масівы ў надзвычай дрэнным стане і гінуць ад шкоднікаў, хвароб, пажараў. Зялёныя масівы вакол горада яшчэ і шмат засмечаны, ператварыліся ў звалкі. З-за гэтага год ад году памяншаецца колькасць грыбоў і ягад у прыгарадных лясах ды і рост захворванняў людзей сярод іншых прычын выкліканы і высокім узроўнем забруджвання паветра.

Здавалася б, усім павінны быць зразумелы элементарныя рэчы. На справе выходзіць прама супрацьлеглае. А што застанецца нашым нашчадкам?

*Уладзімір Шык*

# Выплата кампенсацый

Паводле паведамлення БЕЛТА выплату кампенсацый укладаў насельніцтва плануецца завершыць у гэтым годзе. Як заявіла старшыня праўлення АКБ "Беларусбанк" Надзея Ермакова, сапраўдныя страты ў сувязі з інфляцыяй кампенсаваны не будуць. Для гэтага цяпер распрацоўваецца праект правядзення другога этапу, які дасць магчымасць зрабіць гэта поўнасцю. Для яго рэалізацыі патрабуецца больш як мільярд долараў ЗША, і, мяркуецца, што працэс гэты будзе праходзіць на працягу 20 гадоў. Цікава толькі, колькі ўкладчыкаў, якія мелі грашовыя ўклады да 1991 года, дажывуць да гэтага шчаслівага дня.

*Зміцер Лупач*

# У які дзень парышся?

**Хітраваў пралетарскі паэт, калі казаў, што акрамя свежавымытай кашулі яму нічога не патрэбна. Ох, як да яе шмат чаго трэба дадаць. Каб адчуць хараство і свежасць гэтай кашулі, трэба добра памыцца ў ванне.**


Фота IREX /ProMedia

Мыцца ў лазні – гэта лепш за ўсё. Некалькі разоў узлезці на палок і пахлястаць сябе бярозавым венікам. Можна і дубовым, але ён толькі гарачае паветра ганяе. Бярозавы ж добра масажыруе і насычае паветра бярозавым пахам.

Нездарма кажуць: "В который день паришься, в тот день не старишься". Глядзіш, сем год кожную суботу пахадзіў у лазню, а састарэў толькі на шэсць гадкоў. Трэба хадзіць у парную з шасці гадкоў, тады і ў шэсцьдзесят будзеш маладым дзедам. Сярдзітай жонцы муж калі-небудзь кажа: "Памаўчы, інакш станеш бурклівай старой." А тая разумная жонка, якая рэгулярна ходзіць парыцца, і ў пяцьдзесят пяць будзе жвавай маладзіцай.

А як добра ў лазні з кампаніяй. Калі выйдзеш з парылкі адноўленым, адразу хочацца пагаварыць шчыра, расказаць пра жыццё-быццё.

Сем год назад у лазні можна было пагаварыць на любую тэму, выказаць усё начыста, што на душы. Пагаварыць не толькі аб жанчынах, але і аб палітыцы, аб вялікіх начальніках, якія вядуць нас у светлую будучыню і ў які калгас завялі. Цяпер часцей за ўсё закранаюць тэму рыбалкі.

Так, у лазні стала заўважна менш наведвальнікаў. Дарагая лазенька. За білет трэба выкласці тысячу рублікаў. А за месяц – памнажайце на чатыры. А калі ўсёй сям'ёй парыцца, дык вельмі адчувальна для сямейнага бюджэта.

Гарадская лазня ў Глыбокім раней славілася ў акрузе, была гонарам горада. І гасцей не сорамна было запрасіць на шчодры жар, нават пабоўтыхацца ў басейне. А колькі было радасці рабятам. Зараз "няма таго, што раньш было". Басейн зачынілі яшчэ ў 1997 годзе. Сцены зацвілелі. Ды і многія гараджане адмовіліся ад штотыднёвай лазні. Ходзяць праз два, а то і праз тры тыдні. Эканомяць грошы.




У горадзе за апошнія пяць год жыхары наведваць лазню сталі ў два разы менш. Так, у сакавіку 1999 года гарадскую лазню наведала 4800 чалавек, а ў сакавіку 2000 года – 3800 чалавек. У тым жа месяцы 2001 года памылася 3100 чалавек, у сакавіку гэтага года – 2600. З такімі тэмпамі зніжэння колькасці кліентаў супрацоўнікі лазні могуць застацца без работы, а найбольш бедныя сем'і апусцяцца да ўшывасці.

Ой, як хочацца адчуць хараство свежавымытай кашулі і пажадаць: "З лёгкай парай!" Шчодры жар парылкі аднаўляе сілы, здымае неўрозы і загартоўвае. Пасля моцнай пары – прама пад вядро халоднай вады. На разумным спалучэнні магутных раздражняльнікаў – жару і холаду і пабудаваны загартоўваючы эфект уздзеяння лазні. Цудоўная гімнастыка крываносным сасудам! І як вынік – больш энергічны абмен рэчываў. Безумоўна, частая, не радзей аднаго разу на тыдзень, лазня, амалажвае арганізм, выганяе з яго ўсё адпрацаванае, загартоўвае яго і дае сардэчна-сасудзістай і нярвовай сістэме цудоўную гімнастыку. Але, на жаль, эканамічны крызіс вымушае адмаўляцца ад такога цудоўнага спосаба аздараўлення.

*Генадзь Плавінскі*

---

Пасхальныя рэцэпты

## Продкі завяшчалі

**Пасха прыйшла да нас пасля яе хрышчэння ў канцы X века. На гэтае свята прынята красіць яйкі, гатаваць смачную пасху, пячы кулічы.**

**Пасха звычайная.** Узяць тварог, працерці праз сіта і на 2 кг тварага палажыць 4 свежыя яйкі, 0,5 л. вяршкоў, 0,3 кг сметанковага масла, цукар,соль. Усё гэта размяшаць, паклаўшы ў каструлю паставіць на пліту. Калі тварог пачне закіпаць, зняць з пліты, паставіць на лёд і добра памешваць, пакуль не астыне. Тады зложыць у форму, пакласці пад груз, паставіць на лёд. На другі дзень можна есці.

**Пасха салодкая.** Узяць 2,5 л. вяршкоў, уліць у каструлю, ускіпяціць, зняць з іх пену ў асобны кубак, а ў астатнія вяршкі пакласці 2 або 3 ст. лыжкі смятаны, зноў ускіпяціць. Як толькі падыміцца пена, то яе зноў зняць у той жа кубак, а ў вараныя вяршкі палажыць яшчэ 2-3ст. лыжкі смятаны, паставіць варыць. Калі зноў будзе пена, то яе зняць. Як толькі вяршкі пачнуць сграваццa, іх трэба памешваць, каб не прагарэлі. Калі сыроватка адслаіцца, выліць усё ў сурвэтку, даць сыроватцы сцячы, пасля чаго вылажыць тварог на талерку, усыпаць 1 шклянку цукру і пакласці любых прыпраў (кардамон, ванілін, цытрынную цэдру), добра размяшаць, пакласці ў форму пад гнёт.

**Смачна есці!**

*Т.Смоткіна*

## ЖАНЧЫНА



**Алесь Жыгуноў**

Паверыла жанчына у любоў,
У ветлыя, праніклівыя словы.
І ён быў для яе на ўсё гатовы,
І для дваіх цвіла чаромха зноў.
Паверыла жанчына у любоў,
І свет зазіхацеў шматкаляровы.

Наіўныя каханыя, яны
Не ведалі (ці ведаць не хацелі?),
Што птушкі ўжо у выраі адляцелі,
Што не бывае вечнае вясны.
Наіўныя каханыя, яны
Ад пачуцця высокага трымцелі.

А блізкія, знаёмыя сябры
Зайздросцілі -- на поўніцу! -- шчаслівым.
Жыццё не можа быць несправядлівым?
Яшчэ як можа, што ні гавары.
І блізкія, знаёмыя сябры
З'ядналіся у выраку маўклівым.

Як лёгка, як бязбожна судзім мы,
Свае грахі прытоіўшы ад люду.
І можа, я адзін змагацца буду
За іхняга кахання светлы міг.
Як лёгка, як бязбожна судзім мы,
Сябе пераўтвараўшы у Іуду.



Паверыла жанчына у любоў.
І цуд, і пакаранне гэта, божа!
І хто жанчыне крышку дапаможа,
Ну хто, акром мяне, яшчэ гатоў?
А лёс яе прывёў на раздарожжа.

І ёй на плечы ціснe небакрай,
Душа баліць, і сілы ўжо замала.
Ужо адно за тое, што кахала,
Прашу цябе, Гасподзь, не пакарай
Жанчыну гэту...

✓✓✓

Пагаварыць. І больш нічога,
А проста ўзяць пагаварыць.
І адвітаецца трывога,
І свечка болю дагарыць.

І красавіцкае світанне
Вазьме пяшчотна пад крыло.
І зразумееш, што кахання
Яшчэ ў цябе і не было.

Удаль праводзіш аблачыну
І зразумееш у жыцці,
Што вось за гэтую жанчыну
Гатоў на плаху узысці.

*Красавік 2002 года.*

---

## Успаміны ад цёткі Гэлены

Даўней, калі простаму селяніну ўдавалася выдаць дачку замуж за шляхціча, было вельмі вялікім гонарам. І каб не адставаць ад шляхетных асоб, трэба было пастаянна чымнебудзь выдзяляцца:

Манерна гутарыць, ведаць польскую мову…

Так аднойчы ў хату да Манчынскіх прыехалі сваты. І, як заўжды, сваты прыязджаюць знянацку.

Маладая шляхетная паненка, якой яна сябе лічыла, убегла ў хату і хуценька спытала ў маці:

— Мамуленя, гдзе подзялэм грэбен дзяла? (Маці, дзе дзела грэбень?)

"Мамуленя" не разгубілася і прадоўжыла "слэнг" "шляхетнай" дачушкі:

— В расшчэпендзе тырча за дзверцамі. (У шчэлцы тырчыць за дзвярамі).

*Г.Мартыноўская*

## Усё, як заўсёды

Да нядаўняга пажару ў невялічкай вёсачцы Азерцы, што ў Докшыцкім раёне, з 17 хат дзве стаялі зусім пустыя. Цяпер да іх прыбавіліся яшчэ дзве амаль згарэўшыя хаты, а на вясковых могілках – тры свежыя магілы. Дзень нараджэння ў сям'і пенсіянераў стаў апошнім і для завітаўшай у госці суседкі. Вечарам гаспадар на падпітку заглянуў у хлеў і кінуў на падлогу недакураную цыгарэту, ад якой загарэлася салома, а потым агонь перакінуўся і на суседні будынак.

Полымя наогул магло знішчыць усю вёску, але добра, што тут быў сын аднаго з жыхароў на машыне. На ёй ён паспеў падскочыць у суседнюю вёску Прудnікі, паведаміць па тэлефону у райцэнтр. У саміх Азерцах два тэлефонных апараты зноў не працавалі. Непаладкам на гэтым участку тэлефоннай сеткі больш за дзесяць гадоў, надзейнай сувязі як не было, так і няма. У вёсцы цяпер засталося 33 жыхары, з якіх 8 – дзеці.

*Уладзімір Шык*

## Не запатрабаваны на рынку

Нават аказаўшы ў 2001 годзе больш за ўсіх на Віцебшчыне паслуг насельніцтву на 162,6 млн. рублёў, калектыў Пастаўскага райбыткамбіната ледзь-ледзь зводзіць канцы з канцамі. А з 1 красавіка ўсе падраздзяленні РКБА вымушаны перайсці на 4-х дзённы графік працы. Вытрымаць канкурэнцыю бытавікам усё складаней, хаця ім і ўдалося зберагчы 15 найбольш важных сацыяльных паслуг, аднавіўшы нанова рамонт мэблі, перапрацоўку садавіны. Паколькі ў глыбінцы народ бедны, стратнымі сталі 9 комплексных прыёмных пунктаў з 22 дзейнічаючых. Яшчэ больш прыгнятае работнікаў, што ў іх прадпрыемства няма перспектыў. Знос асноўнага абсталявання дасягнуў 97%. Не выратоўвае становішча і тое, што па-ранейшаму высокім попытам у кліентаў карыстаюцца рамонт абутку, індывідуальны пашыў адзення, цырульня і рытуальныя паслугі.

*У.Шык*

# Калона ў гонар Канстытуцыі

**Да 1939 года сённяшні пляц 17 Верасня ў Глыбокім насіў назоў імя 3 Траўня. Гэта не выпадкова. Наш край быў часткай Рэчы Паспалітай, дзе гэтая Канстытуцыя мела моц. На Копцеўскім цвінтары з гэтае нагоды стаіць помнік Асноўнаму закону Рэчы Паспалітай. Падобны помнік сёння стаіць і ў Лявонпалі, а некалі быў і ў Казянскіх лясах. Не кожны горад можа ганарыцца, што ён мае помнік Канстытуцыі.**

3 мая спаўняецца 211 гадоў з дня прыняцця Канстытуцыі Рэчы Паспалітай. Гэта падзея мела непасрэднае дачыненне і да нашага рэгіёна, бо на той час нашы землі ўваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай. Канстытуцыя гэта была на той час адной з самых дэмакратычных у Еўропе. У Глыбокім да нашых дзён захавалася калона, якая была пастаўлена ў гонар гэтай падзеі. Яшчэ гадоў з пятнаццаць таму ва ўсіх турыстычных даведніках яна падавалася як калона ў гонар перамогі рускіх войск у Айчыннай вайне 1812 года. І хаця гэта было няпраўдай, хто ведае, можа, гэта і паспрыяла таму, што яна захавалася да нашых дзён.

Дзейнічала гэта Канстытуцыя нядоўга, паколькі ў хуткім часе адбыліся другі (1793г.) і трэці (1795 г.) падзелы Рэчы Паспалітай паміж больш моцнымі суседнімі краінамі, у выніку якіх яна спыніла сваё існаванне як дзяржава. Але ў памяці народа Канстытуцыя 1791 г. працягвала жыць. У часы Другой Рэчы Паспалітай (1918 – 1939 г.г.), куды ўваходзіла і тэрыторыя нашага рэгіёна, 3 траўня з'яўлялася дзяржаўным святам. Я памятаю, як яшчэ ў сямідзесятых прадстаўнікі таго пакалення, што жылі "пры Польшчы", святкавалі гэты дзень.

*На здымку:* г. Глыбокае, цвінтар Копцеўка. 26.04. 2002 г. Вежа-калона ў гонар Канстытуцыі Рэчы Паспалітай 3 траўня 1791 г. Яе наверша аблюбавалі бацяны, якія штогод, вясёлым клёкатам абвяшчаюць аб нараджэнні новых маленькіх беларусаў. *Фота Ул. Скрабатуна*

Успамінаючы пра тое, як шанавалі гэты дзень нашы продкі, міжволі параўноўваеш гэта з тым, як мы адносімся да той Канстытуцыі, па якой зараз мы жывём. Мы – гэта ў першаю чаргу дзяржава. На маю думку, дзяржава наша саромеецца сваёй Канстытуцыі, інакш як зразумець тое, што ў нашай краіне Дзень Канстытуцыі проста перастаў быць чырвонай датай календара. Гэтым выказаны адносіны тых, хто прызначае святочныя дні, да свайго Асноўнага закона. Не паважаючы ж сваю Канстытуцыю, нельга пабудаваць моцную прававую дзяржаву.

***Зміцер Лупач***

## Дапамажыце чалавеку

**Пару тыдняў таму ў рэдакцыю "Вольнага Глыбокага" прыйшоў ліст ад 17-гадовага юнака з вёскі Ураджайнае. Ён хацеў змясціць аб'яву ў нашай газеце, бо шукаў працу. На днях ад яго прыйшоў ліст, які мы і прапануем вашай увазе. Можа, сярод чулых людзей нашага горада знойдуцца тыя, хто дапаможа хлопцу, не пакіне яго ў бядзе і прапануе яму работу ў Глыбокім.**

Мы жывём у вёсцы. Бацька памёр каля трох гадоў назад. Маці працуе ў калгасе даяркай. У мяне ёсць малодшы брат і старэйшая сястра. Брату зараз 9 год, а сястра вучыцца. Раней нам грошы хапала, давалі пенсію за бацьку, які памёр. Але калі сястры споўнілася 18 год, грошы перасталі плаціць.

Калгас наш бедны (к-с імя Свярдлова). Заробкі затрымліваюць. Дык вось я вырашыў дапамагчы маці. Я шукаю работу з Новага года, але ў мяне ніяк не атрымліваецца яе знайсці. Я вырашыў даць аб'яву ў вашай газеце, бо спадзяюся такім чынам знайсці працу. Вось у чым справа.

Да пабачэння!

***Баран Вася***

**Тэлефанаваць: в. Ураджайнае, тэл.: 3 89 41 з 18 00 да 19 00, паклікаць Васіля Барана. Прапаноўваць любыя варыянты.**

**У адной з хат на захадзе Віцебшчыны. На сцяне па даўняй завядзёнцы фотаздымкі. У рамачцы, пад шклом. Прыглядаюся. Сярод здымкаў звычных - пахавальных, хрэсьбінных, вясельных бачу і адметныя: чатыры здымачкі вайскоўцаў. Адзін ужо зусім пажаўцелы, на ім салдат у вопратцы яўна царскіх часоў. На другім менш пажаўцелым - таксама вайсковец, але ўжо ў форме польскага жаўнера. Трэці здымак яўна пазнейшы па часе. Тут салдацік у вопратцы савецкай, пасляваеннай. На чацвёртым, каляровым здымку ружавашчокі хлапчына ў камуфляжнай форме.**

# Чатыры фотаздымкі на сцяне,

## альбо Пакаленні вояў пешных

Як жа гэтым не зацікавіцца? Бабуля, гаспадыня хаты, ахвотна тлумачыць, што ўсе гэтыя вайскоўцы - Вырвічы, іх сямейнікі ў розныя часы. Тут ужо цікавасць стала яшчэ большай. А хто ж тады канкрэтна хто?

**Фотаздымак першы.** Юзаф, год нараджэння 1894. Ён, уласна кажучы, і будаваў некалі гэту хату. А ў царскую армію трапіў у 1914, якраз на першую сусветную вайну. Пехацінец, акопнік праз усе яе гады, хапануў нямецкіх газаў. У рэвалюцыю 17-га апынуўся ў Петраградзе. Але іх полк не ахапілі прапагандай ні тыя, ні тыя. Адбілі сілаю цягнік -- і на Беларусь, мірнага жыцця захацелі. Родныя казалі, быў недзе крыжык ад цара. Ну, а пенсія -- якая ж пенсія, калі цара таго скінулі.

**Фотаздымак другі.** Генрых, які нарадзіўся ўжо ў новай, яшчэ недабудаванай хаце ў 1919 годзе. Другую сусветную вайну сустрэў у 1939 годзе шараговым пехацінцам у польскай арміі. Ваяваў супраць немцаў у Памор'і. Палон. Пашчасціла трапіць на радзіму, калі бальшавікі і фашысты абменьваліся палоннымі. Ты бальшавікам беларусаў, бальшавікі ім палякаў. Зразумела, радавых. Афіцэраў чакаў іншы лёс. У 1944 зноў забралі на вайну, цяпер ужо ў Войска Польскае. За Варшаваю цяжка паранены. Інвалід. Некалькі гадоў перад смерцю атрымліваў у дадатак да савецкай пенсію з Польшчы.

**Фотаздымак трэці.** Казімір нарадзіўся ў ваенны час, у 43-м. Якраз бацька пазбегнуўшы палону вярнуўся дадому, займаўся сельскай гаспадаркай. Але ж жыццё бярэ сваё. Так і з'явіўся Казік. Добра, бацька пабачыў яго перад адыходам на фронт у 44-м. Казіміра паклікалі ўжо ў трэццюю армію, савецкую ў 1962-м. Служыў у пяхоце ў Расіі тры гады. У элітныя войскі тады заходнебеларусаў брали неахвотна.

**Фотаздымак чацвёрты.** Казімір доўга пасля службы ў войску не жаніўся. Сын у яго з'явіўся толькі ў трыццаць адзін год. Назвалі ў гонар дзядулі таксама Генрыхам. І вось гэтага, другога Генрыха паклікалі да службы ў войску ўжо ў 1992-м. У беларускую армію. Служыў пад Мінскам, у пяхоце.

Вось так, чатыры прадстаўнікі пакаленняў беларускіх сялян, ад прадзядулі да праўнука, па часе недзе за 80 гадоў, а служылі ў абсалютна розных арміях. І на працягу гісторыі арміі гэтыя між сабою нават ваявалі. Царская (белагвардзейская) ды з савецкай, савецкая ды з польскай.

Але ж можна заглянуць і крыху глыбей у гісторыю. Па сямейнай легендзе бацька Юзафа, імя яго ў сям'і ўжо не памятаюць, у паўстанне 1963-га года трапіў у паўстанцкі атрад, які змагаўся супраць царызму. Не шляхцюк, каня ды добрай зброі не атрымаў. Быў пехацінцам. За што потым і трапіў пад казацкую нагайку.

Але ж можна заглянуць і наперад. У Генрыха-другога, як сказалі б у Еўропе, гадуецца сын. У якой арміі будзе служыць ён? У беларускай? У рускай, калі мы дойдзем да такога стану аб'яднання з Расіяй. Ці ў якой-небудзь іншай, бо час такі хуткацечны, такі вірлівы -- час крутых пераменаў.

А ўвогуле такі быў лёс нашага народа, што нават сын і бацька не маглі паслужыць у адной і той жа арміі. Што землі нашы на працягу недзе двух апошніх стагоддзяў дзяліліся і перакройваліся столькі разоў і ў такіх дыяметральна супрацьлеглых напрамках. Асабліва гэтым вызначылася мінулае, дваццатае стагоддзе.

Што там. Возьмем апошнюю вайну. Мае родныя заходнебеларускія мясціны, якія сёння прылягаюць да суверэннай Літвы. Ведаеце, колькі ў гэтых мясцінах, асабліва пад канец вайны, годзе гэтак у 1944-м, адначасова існавала збройных уладаў, кожная з якіх лічыла, што менавіта яна галоўная. А давайце палічым.

Немцы-акупанты. Яны прэтэндавалі на гэтыя землі, назваўшы іх сваімі па праву... па праву моцы і зброі.

Савецкія партызаны. Яны прыйшлі ў гэтыя лясы змагацца з немцамі і астатнімі за гэтыя абшары па праву таго, што далучылі іх да сябе ў 1939 годзе ў адпаведнасці з пактам Молатава-Рыбентропа.

Армія Краёва. Так званыя акаўцы, польскія партызанскія атрады змагаліся тут супраць немцаў, а найперш супраць саветаў за землі, якія яны лічылі сваімі, бо валодалі імі з 1921-га па 1939 гады па рыжскай дамове з тымі ж саветамі.

Літоўцы. І гэтыя атрады гаспадарылі ў нашых мясцінах. Бо немцы, захапіўшы заходнія раёны былога СССР, адарвалі ад Беларусі кавалак і аддалі яго Літве. Так што частка майго роднага, Пастаўскага раёна пад час вайны лічылася Літвою. І беларусаў, якіў прымусова выганялі на працу ў Германію, там лічылі за літоўцаў. Што, дарэчы, давала нейкую палёгку.

Зялёныя. Былі яшчэ і нешматлікія польскія партызаны, якія падпарадкоўваліся савецкаму камандаванню, а потым камандаванню Войска Польскага, якое змагалася на баку СССР.

Але і гэта яшчэ не ўсё. Былі яшчэ і беларускія калабаранты, як іх да нядаўніх часоў называлі. Людзі, якія вірнукі вайны, супрацьстаянне дзвюх імперый імкнуліся выкарыстаць для справы адраджэння ўласнай, беларускай дзяржавы. На пачатку вайны яны супрацоўнічалі з немцамі больш у гуманітарным плане. Але ў канцы вайны мелі зброю таксама.

Нарэшце, былі і такія, хто браў у рукі зброю і ішоў у лес, каб проста парабаваць.

І ўсе гэтыя атрады і групоўкі, груповачкі дзейнічалі адначасова, на адной тэрыторыі. І ўсё гэта на бедныя, знявечаныя вайной беларускія вёскі. На народ, які часта ўжо і сам не разумеў: хто ён такі і да якой дзяржавы сябе павінен адносіць. Кроў лілася з усіх бакоў. Але найбольш крыві праліваў беларускі селянін. Яго не толькі забіралі ў свае шэрагі тыя ці іншыя. Яго нішчылі ў час карных аперацый. Яго стралялі за дапамогу, вымушаную, той ці іншай сілы. Яго проста забівалі ад таго, што зброя мае ўласцівасць страляць.

Некалі нашы суседзі па адной дзяржаве, а цяпер суседзі па адной Еўропе палякі назвалі час наступу на іх крыжакаў і турак Патопам. Час другой сусветнай вайны для беларусаў інакш як Крывавым Патопам не назавеш. І не кожны чацвёрты загінуў на нашай зямлі. Далёка не кожны чацвёрты.

***Алесь Касцень***

# Веснавы вечар у Глыбокім

## А ЯК ВЫ ПРАВОДЗІЦЕ СВОЙ ВОЛЬНЫ ЧАС?

**Вясна -- гэта не толькі абуджэнне і росквіт прыроды, якая прачнулася ад зімовага сну і з усіх сваіх сіл цягнецца да сонца. Вясна -- гэта заўсёды і абуджэнне чалавека. У ім прачынаюцца лепшыя пачуцці і памкненні, выспяваюць новыя планы. Вось мы і вырашылі пацікавіцца ў глыбачан: а што прынесла ім гэта вясна, якія пачуцці выклікала, чым парадавала?**

**Прычым, нас не столькі цікавіла працоўная дзейнасць нашых землякоў, іх поспехі ў бізнесе альбо «працоўныя набыткі». Пытанне было самым простым, але веснавым: дзе праводзіце свой свабодны, вечаровы час.**

**Нашымі рэспандэнтамі былі ў асноўным людзі маладога ўзросту, бо менавіта іх адпачынак, нармальнае, цывілізаванае правядзенне вольнага часу выклікае пэўныя праблемы.**



**Алег Пачопка:** Схадзіць у горад, пагуляць з маёй дзяўчынай, а таксама пасядзець за камп`ютарам.



**Юля:** Для мяне вясна самы лепшы час. Калі такое надвор`е, абавязкова хочацца выйсці ў горад, сустрэцца з сяброўкамі і сябрамі.



Так бавяць свой час юныя глыбачане. Трэніроўкі па «Брэйк-Данс» праходзяць тут амаль кожны вечар.



**Андрэй:** У вольны час люблю катацца на роліках.



**Алеся:** Увечары схадзіць у цэнтр, бо гэта месца нашых сустрэч.



**Юля:** У свабодны час люблю пабыць у кампаніі сяброў, а таксама на трэніроўках па «Брэйк-Данс».



**Старшына міліцыі Садоўскі:** Свабодны час люблю праводзіць дома ў кругу сям`і.



**Насця:** Толькі прагулкі прыносяць добры настрой.



Прыемна, калі пад вокнамі тваёй кватэры будзе прыгожа, распусцяцца маладыя дрэвы, зацвітуць на клумбах кветкі. На здымку: працуюць жыхары мікрараёна МКК.

Старонку падрыхтавалі: Андрэй Храпавіцкі і Васіль Саланінка



І ў самым цэнтры Глыбокага можна паспытаць сваю рыбацкую ўдачу. Ці зловіцца што -- невядома. Але задавальнення і весялосці дзятве хапае.







# Хатняя касметыка

**Каб надаўжэй зберагчы твар ад згубнага ўздзеяння часу, аддаліць працэс звядання скуры, трэба ведаць прычыны, якія яго выклікаюць.**

Найбольш істотнай з іх з'яўляецца «пераразмеркаванне» падскуратлушчавай клятчаткі. З узростам колькасць тлушчавых адкладанняў у вобласці вачэй памяншаецца, вочы быццам западаюць, а пад імі ўзнікаюць цёмныя кругі. У ніжняй частцы твару, наадварот, колькасць тлушчавай клятчаткі павялічваецца, у выніку чаго шчокі паступова адвісаюць і ўтвараецца двайны падбародак, мяняецца авал твару. Эластычнасць валокнаў злучальнай тканкі і мышцаў твару зніжаецца, пагаршаецца скураны крывазварот, патаўшчаецца рагавы слой. Скура набывае жаўтавата-шэрую афарбоўку, грубее, пакрываецца сеткай маршчын. Клапаціцца аб скуры трэба пачынаць ужо ў маладым узросце. Перш за ўсё неабходна сачыць за станам свайго здароўя. Любыя захворванні нервовай сістэмы, залоз унутранай сакрэцыі, страўнікава-кішэчнага тракту, жаночых палавых органаў немінуча адбіваюцца на стане скуры. Акрамя таго, эластычнасць скуранога покрыва памяншаецца ад хуткага прыбаўлення ў вазе або пахудзення. Дрэнна ўплываюць таксама на стан скурыператамленне, бяссонніца, курэнне, ужыванне спіртных напояў. Неабходна ахоўваць твар і ад уздзеяння сонечных промняў, ветру, холаду, салёнага марскога паветра. Адной з умоў свежасці і прыгажосці скуры з'яўляецца яе чысціня. Калі вечарам старанна не ачышчаць твар ад касметыкі і гразі, усе клопаты аб добрым колеры твару будуць марнымі. Але ці ўмееце вы ўмывацца правільна? Ці ведаеце, што халодная вада звужае сасуды і ў рэшце рэшт выклікае празмерную сухасць скуры, пазбаўляе яе эластычнасці? Гарачая ж вада добра змывае лішкі тлушчу, але паступова прыводзіць да расшырэння паверхневых сасудаў, пачырванення скуры. Пры пастаянным умыванні твару гарачай вадой скура на ім становіцца вялай, бо мышцы твару расслабляюцца. Лепш за ўсё для ўмывання выкарыстоўваць ваду, тэмпература якой блізкая да хатняй. Твар з нармальным тыпам скуры можна мыць цёплай і апаласкваць халоднай вадой, чаргуючы іх некалькі разоў. Такая працэдура выклікае то звужэнне, то расшырэнне сасудаў і з'яўляецца для іх своеасаблівай гімнастыкай. Калі скура на твары вельмі сухая, запаленая, лушчыцца, зрабіце так: давядзіце да кіпення 1 л вады і 200 г малака. Атрыманую вадкасць пастаўце на ноч адстойвацца, а затым працадзіце праз марлю і пераліце ў бутэльку. Мыйце твар гэтай сумессю раніцай і вечарам без мыла, пасля чаго змазвайце скуру тлустым крэмам. Захоўваць вадкасць трэба ў халодным месцы, а перад ужываннем патрымаць у цяпле. Добра праціраць твар і свежым малаком, у якім паўгадзіны праляжала некалькі скрылькоў агурка. Тлустую скуру твару раніцай цудоўна асвяжае халодная вада з дабаўленнем некалькіх кропель лімоннага соку. Выдатны эфект атрымліваецца і пры пачарговым умыванні цёплай і халоднай вадой. Вітамінам прыгажосці лічыцца вітамін А. Ён надае скуры эластычнасць і гладкасць. Пры недахопе ў арганізме гэтага вітаміну скура набывае нездаровае шэраватае адценне. Спажывайце малочныя прадукты, яйкі, моркву, памідоры, зялёную салату, гарох і іншую агародніну— і ваш твар заўсёды будзе выглядаць маладым і прывабным. Вельмі добра, калі час ад часу вы зробіце на твар маску. Вось некалькі рэцэптаў масак для сухой скуры: здробненыя лісты свежай капусты адварыць у малацэ. Атрыманую масу нанесці на твар і шыю; адварыць у малацэ яблык, здрабніць яго ў кашку і цёплым нанесці на твар; 1 ч. лыжку свежага тварагу расцерці з 1ч.лыжкай свежых вяршкоў і 1 ч. лыжкай маркоўнага соку; 1 ч. лыжку вяршкоў змяшаць з 1 ч. лыжкай маркоўнага соку. Хутка робіцца маска і для тлустай скуры: 10 г соку пятрушкі змешваецца з 10 г малака.

*Т.Сергіевіч*

# Гараскоп 2.05 – 8.05

**Авен (21.3 – 20.4)** Шукайце сабе новыя крыніцы прыбытку на піва і жвачку. Ранейшыя аб'ёмы партманета больш не будуць задавальняць тых, хто павіс на вашай шыі. Каб павялічыць якасць і памер спажывецкага кошыка, пазваніце даўняму знаёмаму, які нечакана разбагацеў, — менавіта ён азалаціць вас. Спрыяльныя дні – 5,8, крытычны – 3.

**Цялец (21.4 – 20.5)** Прайшоў час, калі вас не лічылі чалавекам. Цяпер ваша абаянне і сексуальнасць, што расцвілі па вясне, прымусяць людзей звяртаць на вас увагу. На вас пачнуць паглядваць раней недасяга́льныя мясцовыя кіты бізнесу і культуры. Не пазяхайце, шукайце карысць. Спрыяльныя дні – 3,6, крытычны –4.

**Блізняты (21.5 – 21.6)** Закончылася эра страшных сварак у вашым жыцці. Цяпер час мірыцца і з тымі, хто павінен вам дзесятку, і з тымі, хто абазваў вас нядобрым словам, і наадварот, пераварыць іх у сяброў. Спрыяльныя дні – 5,8, крытычны – 7.

**Рак (22.6 – 22.7)** Вы ў стане нарасхоп. Доступ да цела трэба крыху абмежаваць, а то пачнуць мацаць рукамі і партнёры, і сябры, і нават адзінокія старыя і бабулі. Тое, што нажытае за гады бітваў і збояў –розум, вопыт, неахайнасць, усё спатрэбіцца для агульнай справы. Спрыяльныя дні –2,6, крытычны – 5.

**Леў (23.7 – 23.8)** Не вымушайце сябе праз сілу мыць посуд альбо рабіць генеральную ўборку. Лепш даць ход рамантычным жаданням. І ці не час вам зноў закахацца – вясна ўсё-такі... А як наконт чарговага дзіцяці? Дарэчы, на фоне кахання ў вас лёгка складуцца і іншыя справы. Спрыяльныя дні – 5,6, крытычныя – 3.

**Дзева (24.8 – 23.9)** Час адчыняць свой хатні бізнес. Бабулю – на піражкі, дзядулю – на драўляныя вырабы, астатніх – на падсобную гаспадарку. Так пакрысе наладзіцца ваш бюджэт. А сваякі, якія звычайна атручваюць існаванне, раптам пачнуць прыносіць вам адны радасці. Спрыяльныя дні –2,7, крытычны – 5.

**Шалі (24.9 – 23.10)** Хто сказаў, што кахання на свеце няма? Яно не толькі на Свеце, але і на Машы, і на Любе. Нават вам у гэты галодны час перападзе крыху гэтага пачуцця. Гармоны ў вашым целе так зайграюць, што ў палітыцы народзіцца новая грамадская сіла – закаханыя Шалі. Спрыяльныя дні – 5,8, крытычны – 2.

**Скарпіён (24.10 – 22.11)** Няхай будзе светлым ваш шлях. Тое, на што вы адважыліся, не выклікае радасці ў акружаючых, затое прынясе вам процьму забытых адчуванняў, плюс пачуццё матэрыяльнай перанасычанасці. Днямі вы набудзеце рэч, пра якую марылі апошнія гады. Спрыяльныя дні –4,8, крытычны — 2.

**Стралец (23.11 – 21.12)** Калі ўсё яшчэ вагаецеся: рабіць гэта альбо не, то час ужо рабіць. Вы заўсёды вызначаліся тым, што плявалі на агульнапрынятыя нормы. І калі справа толькі ў тым, што скажа ' княгіня Мар'я Аляксееўна", то забудзьцеся пра гэта. Ад аднаго легкадумнага ўчынка залежыць будучае шчасце, вялікае шчасце. Спрыяльныя дні – 5,8, крытычны – 2.

**Казярог (22.12 – 20.1)** Не сядзіце дома. Усё, што перападае вам ад жыцця, будзе сыходзіць ад калектыву. Грамадскае жыццё можа вылучыць вас нават на першы план, хаця нічога такога асаблівага ў вас няма, а тым больш арганізатарскіх здольнасцей. Спрыяльныя дні – 2,6, крытычны — 4.

**Вадалей (21.1 – 19.2)** Рэвалюцыйны цяпер час. Трэба ламаць усё, што нажыта, выкідваць старую мэблю ў вокны. Вас чакае прама за парогам ідэя новай дарагакастуючай тэхналогіі, якую вы зможаце прадаць хоць японцам, хоць амерыканцам. Спрыяльныя дні – 5,8, крытычны – 6.

**Рыбы (20.2 – 20.3)** Гэта не крытычныя дні месяца, гэта недахоп вітаміна. Лекі ад хандры – інвестыцыйная дзейнасць. Укладвайце ў справу ўсё, што забадзялася: апошнія 15 – 20 мільёнаў альбо скрыню нявыкарыстаных цвікоў. Спрыяльныя дні – 3,7, крытычны – 5.

# АНЕКДОТЫ

Прадаўшчыца Навіцкая пакутуе на хранічнае недасыпанне. Яна працуе ў вясковай краме і штодзённа не дасыпае 5-6 кг мукі ды макаронных вырабаў.

***

-- Што больш важна ў біатлоне: хутка бегаць ці трапна страляць?

-- Біатлон, гэта як секс. Калі не патрапіў, то хуткасць ужо не выратуе.

***

У крамы горада завезлі новых уранавых пакемонаў вагой 1/50 крытычнай. Збяры іх усіх!

***

Размаўляюць калгаснікі:

-- Наш старшыня моцны дзядзька: на нас націсне -- шклянка гарэлкі нацячэ.



"Вольнае Глыбокае"
Тыднёвік паўночна-заходняй Беларусі
Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун

Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання № 1099, выдадзена Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 г.

Рэдактар і выдавец: п.п. Уладзімір Скрабатун, пасведчанне № 390000860 ад 20. 10. 99; тэлефон: 2 46 14; E-mail: vglybokaye@irex.minsk.by

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў. Спасылкі на "Вольнае Глыбокае" абавязковыя.

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень
Аб'ём -- 2 друкаваныя аркушы
Падпісана ў друк 29 красавіка 2002 г. у 10[00]
Наклад 1000 паасобнікаў
Юрыдычны адрас: вул. Маскоўская, 121, г. Глыбокае.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк, вул. Блахіна, 26 Замова 2469